**BIELARUS**

**Byelorussian Newspaper in the Free World**
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
**Выдае:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
**Выпіска** зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, **могуць** зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# АНТЫСАВЕЦКАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў ЛЁНДАНЕ

Дня 10 лютага сёлета на Трафальгар Сквэры ў Лёндане адбылася Антысавецкая Дэманстрацыя, у якой прыймалі ўдзел і Беларусы. Пры нагодзе варта прыгадаць, што Беларусы заўсёды годна рэпрэзэнтавалі сябе падчас многіх ранейшых дэманстрацыяў супраць савецкага акупанта нашае Бацькаўшчыны.

Беларускія дэманстранты, ідучы пад сваім нацыянальным сьцягам ды салідарызуючыся зь іншымі нацыянальнасьцямі, выказвалі сьвету крыўду, створаную над нашым народам. Падчас апошняй дэманстрацыі ў плякаце на ангельскай мове яны дамагаліся свабоды для ведамага беларускага іншадумца Міхала Кукабакі ды распаўсюджвалі нядаўна выдадзеныя ў ЗША паштоўкі ў вабароне Кукабакі.

**А. Здանковіч**

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

БНР атрымаў ад абласнога камітэту партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў... З ухвалай сустрэлі абвешчаньне БНР і розныя дробнабуржуазныя партыі й групы на месцах. Яшчэ зусім нядаўна эсэры, Бунд і іншыя партыі ня бачылі ні палітычнай, ні эканамічнай мэтазгоднасьці ўтварэньня нацыянальнай дзяржавы ў Беларусі ,навет у форме слабой аўтаноміі... Цяпер, у новай сытуацыі, — прызнае савецкі аўтар, — эсэры, бундаўцы сталі актыўнымі прыхільнікамі дзяржаўнага адасабленьня Беларусі".

Гэтае ўсеагульнае падтрыманьне адлюстравалася й у складзе Рады БНР, і ў Народным Сакратарыяце, бо, як сьцьвярджае той-жа Кругалевіч, „У Радзе, як і ў Народным Сакратарыяце, удзельнічалі грамадаўцы, эсэры, меншавікі, паалейцыяністыя. Прадстаўнікі аднаўленых гарадзкіх самакіраўніцтваў і земстваў мелі па 10 месцаў, „рэвалюцыйнай дэмакратыі" нацыянальных мяншыняў — 15. Так званая „беларуская група" налічвала 36 чалавек. Усяго ў Радзе было 71 месца".

Пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі неадкладна паўстала пытаньне вонкавага падтрыманьня незалежнай краіны. Рада не магла спадзявацца на падтрыманьне ні Савецкай Расеі, ні Польшчы, бо яны прэтэндавалі на Беларусь, як на часьць свае тэрыторыі. Нямецкая-ж акупацыя ня спрыяла й не магла спрыяць палітычнаму замацаваньню абвешчанай БНР, бо Немцы прыйшлі на Беларусь як заваёўнікі, а не як хаўрусьнікі. Аднак, ня гледзячы на гэта, Рада БНР, у пошуках патрэбнага вонкавага падтрыманьня з боку аўтарытэтнай дзяржавы палічыла мэтазгодным зьвярнуцца да ўраду Нямеччыны з просьбай прызнаць незалежнасьць БНР. Аднак, як адзначалася ў вадказе на мэмарандумы Рады БНР: „Перашкодай да прызнаньня незалежнасьці Беларусі зьяўляецца Берасьцеўская ўмова паміж Нямеччынай і РСФСР, якой Нямеччына абавязвалася не падтрымліваць новых дзяржаўных утварэньняў на тэрыторыі былой Расеі" (цытуем паводля працы Зюзькова „Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі", выдадзенай у 1921 годзе).

Савецкая гістарыяграфія расцэньвае звароты Рады БНР да ўраду Нямеччыны, як імкненьне ператварыць Беларусь у калёнію Нямеччыны, як зраду народных інтарэсаў. Але яна абходзіць маўчаньнем той факт, што Рада БНР у сваіх зваротах-мэмарандумах пратэставала супраць бясспраўнасьці Берасьцейскае ўмовы, а прабываньне нямецкай арміі ў Беларусі называла акупацыяй. Справа ў тым, што Рада БНР глядзела на Нямеччыну, як на менш небясьпечную краіну, чымся сваіх суседзяў, з боку якіх адразу-ж выявяцца дэнацыяналізатарскія тэндэнцыі ў дачыненьні да Беларусі.

Ня мелі посьпеху й іншыя спробы Рады БНР знайсьці падтрыманьне з боку вялікіх заходня-эўрапейскіх дзяржаваў. Аднак, і не зважаючы на гэтыя няўдачы, сам факт абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ды прынятыя захады для дыпляматычнага прызнаньня БНР, спрычыніліся да карэнных зьменаў у дачыненьні бальшавікоў да беларускага пытаньня.

Шпаркі рост беларускага нацыянальнага руху, скліканьне Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, апублікаваньне Трох Устаўных Граматаў, абвешчаньне незалежнасьці БНР, пошукі дыпляматычнага прызнаньня Беларускай Народнай Рэспублікі, шырокае падтрыманьне БНР у народзе й сярод нацыянальных мяншыняў Беларусі дый успрыйманьне беларускімі масамі ідэі нацыянальнай незалежнасьці Беларусі, — усе гэтыя падзеі нарэшце пераканалі бальшавікоў у рэальнасьці існаваньня беларускага пытаньня, якога нельга было больш ігнараваць, якім, хоць і з прымусу, але трэба было заняцца.

Спачатку, каб не распаўсюджваць ідэі нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці ў масах, бальшавікі праводзяць розныя зьезды, канфэрэнцыі, мітынгі, наладжваюць прынядцьці ў кантраляванай імі частцы Беларусі, на якіх прыймаюцца рэзалюцыі, у якіх абзываюць урад БНР „буржуазнай замежнай агентурай" і патрабуюць улучыць Беларусь у склад Расеі. Аднак з часам у гэтых рэзалюцыях, заміж ранейшай Заходняй вобласьці, як называлі бальшавікі Беларусь дагэтуль, пачынае далучацца слова „Беларусь". Упяршыню ў гэны час, таксама з прапагандавай мэтай, бальшавіцкія партыйныя арганізацыі пачынаюць называць сябе „беларускімі".

Калі ўлетку 1918 году бальшавікі ствараюць свой цэнтар для акупаванай Немцамі тэрыторыі Беларусі, яны называюць яго Беларускім краёвым камітэтам РКП(б).

Такім чынам і дзякуючы раней згаданым фактарам і падзеям, зьвязаным зь беларускім нацыянальным рухам і дзейнасьцяй Рады БНР ды пад уплывам стыхійнага ўсприйманьня масамі ідэі беларускае незалежнасьці, навет партыйныя арганізацыі ў Маскве й Смаленску пачынаюць схіляцца да думкі аб патрэбе неадкладнага ўтварэньня беларускае рэспублікі.

З усяго гэтага вынікае, што й утварэньне БССР не зьявілася выражэньнем добраахвотнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі, а што бальшавікі пайшлі на ўтварэньне беларускай савецкай рэспублікі пад непасрэдным узьдзеяньнем беларускага нацыянальнага руху, разьвіцьцё й дзейнасьць якога ўкаранаваліся абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Д-р В. Сеньkeвіч**



# ПАД ДЗЯРЖАЎНІЦКІМ СЬЦЯГАМ БНР

Векапомны Акт 25 Сакавіка, якім у 1918 годзе была абвешчаная дзяржаўная незалежнасьць Беларусі, гэта ня толькі зьява, што належыць вылучна да гісторыі. Наадварот, не зважаючы на розныя палітычныя сытуацыі, што йснавалі пасьля гэтага, ідэя Акту 25 Сакавіка заўсёды была й ёсьць дый будзе галоўнай рухаючай сілай у жыцьці беларускага народу. Пра гэта мы й павінны памятаць, адзначаючы кажныя ўгодкі Сакавіковага Акту, у тым ліку й сёлетнія 62-ыя ўгодкі.

**
*

**„... Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго Ўстаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязах Беларусі".**

Гэтыя словы былі сказаныя Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску 25 сакавіка 1918 году у ейнай трэйцяй грамаце, ведамай пад назовам Акту 25 Сакавіка. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны сувэрэнны ворган беларускага народу, словамі гэтымі абвесьціла вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць Беларусі ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой была дагэнуль Беларусь. Такім чынам на развалінах гістарычнае турмы народаў — царскае Расеі, побач з многімі народамі, ёю паняволенымі, у гэты гістарычны 1918 год паўстаў да вольнага й незалежнага дзяржаўнага жыцьця й беларускі народ.

Каб зразумець усю веліч Акту 25 Сакавіка ды прасачыць ягонае значаньне ў гістарычным аспэкце, нельга ня кінуць вокам хоць у некалькіх словах на мінуўшчыню беларускага народу, на часы ягонага дзяржаўнага незалежнага жыцьця, як і гады заняпаду й няволі.

На сяньняшняй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі й некаторых сумежных зь ёю тэрыторыях раньняя гісторыя застае беларускі народ ужо ў IX-X стагодзьдзі нашае эры, які тады тварыў рад удзельных незалежных княстваў, спасярод якіх удзельныя княствы крывіцкага племені Полацкае й Смаленскае ў XI-XII стагодзьдзях дасягаюць высокага ўзроўню палітычнага й культурнага разьвіцьця. У XII стагодзьдзі ўвесь беларускі народ, падзелены на паасобныя ўдзельныя княствы, задзіночваецца ў вадзіным дзяржаўным арганізьме — Вялікім Княстве Літоўскім, якое, апрача ўсяе этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі, як ягонай цэнтральнай і асноўнай часьці, улучае ў сябе тэрыторыю сучаснай Лятувы й на працягу ладнага часу вялікую часьць Украіны.

Тэндэнцыйныя гісторыкі суседніх нам народаў, прэтэндуючых на беларускія землі, стварылі хвальшывую тэорыю, што быццам беларускі народ уваходзіў у Вялікае Княства Літоўскае, як народ заваяваны, і што ягоная роля й удзельная вага ў гэтым княстве былі другарадныя. Гэтая тэндэнцыйная тэорыя ў вялікай меры была перанятая й гісторыкамі Захаду. У запраўднасьці-ж, у Вялікім Княстве Літоўскім якраз Беларусы былі народам найбольш актыўным і дзяржаўна творчым, служылі культурным узорам для ўсіх астатніх народаў, уваходзячых у склад Вялікага Княства, а беларуская мова была ўзьнятая на вышыню мовы дзяржаўнай і мовы культурных і асьвечаных слаёў грамадзтва ня толькі ў этнаграфічнай Беларусі, але й на нябеларускіх тэрыторыях Княства. Гэткім чынам беларускі народ быў не аб'ектам у гэтай дзяржаве, але ейным суб'ектам, і таму Беларусы зусім правільна ўважаюць сяньня гэтае Княства за сваю дзяржаву. Гэта была ў той час найвялікшая палітычная, мілітарная й культурная сіла на ўсходзе Эўропы, а беларуская культура дасягнула, асабліва ў сваім „залатым" XVI стагодзьдзі, свайго зэніту. Прыкладам гэтага можа служыць хоць-бы факт, што ўжо ў 1517 годзе паяўляецца ў Беларусаў друкарства, запачаткаванае й далей разьвіванае Д-рам Францішкам Скарынам з Полацку, калі ў Маскве першае друкаваньне кніжак пачынаецца 65 год пазьней, будучы туды занесеным Беларусам, вучнем Скарыны.

Дзякуючы палітычным вуніям Вялікага Княства Літоўскага з Польшчаю, асабліва Люблінскай Вуніі ў 1569 годзе, Беларусь уваходзіць у фэдэрацыйную сувязь з польскім каралеўствам. У сэньсе абаронным гэтая вунія была зьявай дадатняй у вабліччы частых войнаў з Маскоўшчынай на ўсходзе й зь нямецкім крыжацкім ордэнам на захадзе. Затое з гледзішча палітычнага вунія сталася пачаткам заняпаду сьпярша беларускае культуры, а пазьней і заняпаду палітычнага. Хаця юрыдычна Вялікае Княства Літоўскае аж да 1793 году, г. зн. да другога разьдзелу Польшчы, было незалежнай дзяржавай, задзіночанай фэдэральнымі сувязямі з Польшчай на правах раўнапраўнага партнэра з апошняй, аднак у галіне культурнай, пачынаючы з канца XVI стагодзьдзя, пранікаючыя на Беларусь польскія ўплывы што раз болей і шырэй пачынаюць выціскаць элемэнты беларускія. У выніку гэтага, у XVII, а яшчэ больш у XVIII стагодзьдзі беларуская арыстакрацыя, шляхта й мяшчане, што засілялі да гэнага часу рады беларускае інтэлігенцыі й тварылі сабой асьвечаны слой грамадзтва, палянізуюцца, пераймаюць польскую культуру, польскую мову, а за гэтым і сьведамасьць польскай нацыянальнай прыналежнасьці. Асноўная-ж маса беларускага народу — сялянства не паддалося палянізацыі, але гэты сацыяльны слой народу не адыгрываў тады ніякай ані палітычнай, ані культурнай ролі.

Але найбольш цёмны й трагічны пэрыяд гісторыі беларускага народу пачынаецца пасьля другога падзелу Польшчы ў 1793 годзе, калі амаль уся беларуская тэрыторыя была ўлучаная ў склад расейскае імпэрыі. Расейскі царскі ўрад пастанавіў поўнасьцяй зрусыфікаваць беларускі народ і адразу-ж павёў сваю палітыку ў кірунку дасягненьня гэтае мэты. Русыфікацыйны працэс Расея пастанавіла правесьці двума галоўнымі спосабамі: спосабам урадавай і паліцыйнай забароны беларускага нацыянальнага жыцьця ды прымусовай русыфікацыі — з аднаго боку, а так-жа спосабам штучнага спыненьня культурнага разьвіцьця народу наагул і трыманьня яго ў стане адсталасьці й цемры — з другога. Гэткім чынам ліквідуюцца на тэрыторыі Беларусі вышэйшыя навучальныя ўстановы, Віленскі Ўнівэрсытэт і Полацкая Акадэмія, звужаецца сетка сярэдняга школьніцтва. У 1839 годзе ліквідуецца царскім загадам беларуская нацыянальная грэцка-каталіцкая царква, забараняецца ў сьвятынях ужываньне беларускае мовы, а ў 1867 годзе наступае забарона друку ў беларускай мове, якая трывае аж да 1905 году.

Таксама штучна абніжаецца матарыяльны ўзровень й сацыяльнае становішча беларускага сялянства шляхам усіленьня прыгону. Наш нацыянальны назоў эпохі ўдзельных княстваў — Крывічы зусім выкідаецца з расейскай тэрміналёгіі ў дачыненьні да беларускага народу. Наш пазьнейшы нацыянальны назоў эпохі Вялікага Княства Літоўскага — Ліцьвіны таксама адбіраецца ад нашага народу й пераносіцца на невялікі народ, які дагэнуль ніколі Ліцьвінамі не называўся, называючы сябе Жмудзінамі — Жамойцямі. Расея, у мэтах хутчэйшае русыфікацыі беларускага народу й дзеля адарваньня яго ад традыцыі Вялікага Княства Літоўскага ,накідае яму амаль няведамы дагэнуль назоў Беларусы, які, нажаль, пакутуе й да сяньня.

Чаго не даканала польская культурная экспансія на Беларусі на працягу двух апошніх стагодзьдзяў існаваньня Вялікага Княства Літоўскага, тое зрабіла й завяршыла царская Расея. Дзякуючы ейнай русыфікацыйнай палітыцы й палітыцы трыманьня народу ў культурнай адсталасьці й цемры, наступае поўны палітычны, нацыянальны, культурны й сацыяльна-эканамічны заняпад Беларусі. Народ траціць сваю нацыянальную сьведамасьць і становіцца пасыўнай этнаграфічнай масай, зьяўляецца аб'ектам русыфікацыі з аднаго боку й далейшай палянізацыі — з другога.

Такое палажэньне мела той трагічны для беларускага народу вынік, што, калі ў пачатку XIX стагодзьдзя пачынаецца пад агульным уплывам рамантычных ідэяў і Напалеонаўскіх паходаў нацыянальнае адраджэньне беларускага народу, дык традыцыя ягонай мінулай славы, магутнасьці й культурных багацьцяў эпохі роскві ту Вялікага Княства Літоўскага была ўжо зусім парваная. Яна ўжо не магла аджыўляць сваімі сокамі нацыянальнага руху беларускага адраджэньня. Усё цяпер трэба было тварыць ад самага пачатку. Новая беларуская культура пачынае разьвівацца не на беларускай культурнай спадчыне эпохі ўдзельных княстваў і эпохі Вялікага Княства Літоўскага, але на элемэнтах фальклёрнай культуры беларускага сялянства. Беларуская літаратурная мова пачынае ў XIX стагодзьдзі тварыцца не на базе беларускай літаратурнай і ўрадавай мовы Вялікага Княства Літоўскага, як мусіла-б быць пры нармальных культурных і палітычных абставінах, але на базе чыста народнай мовы беларускага цэнтральна-заходняга дыялекту.

Беларускае нацыянальнае адраджэньне спачатку мела вылучна культурны аспэкт, як адраджэньне літаратуры, культуры й перадусім мовы, і толькі пазьней, побач з мамэнтамі культурнымі, даходзіць да голасу й аспэкт палітычны. Беларускі паэта другой палавіны XIX стагодзьдзя Францішак Багушэвіч, часта званы бацькам беларускага нацыянальнага адраджэньня, кідае лёзунг: **„Беларусы, ня чурайцеся мовы вашае беларускае, каб ня ўмерлі!"** Правадыр беларускага паўстаньня 1863 году, прызнаны потым беларускім нацыянальным героем, Кастусь Каліноўскі, будучы засуджаным царскім урадам на сьмерць, з турмы перасылае беларускаму народу свой палітычны тэстамант: **„Толькі тады, беларускі народзе, зажывеш шчасьліва, калі ўжо болей Маскаля над табою ня будзе".**

Беларускае нацыянальнае адраджэньне, паклаўшы ў васнову два гэтыя лёзунгі, выліваецца ў масавы нацыянальна-адраджэнскі рух толькі пасьля рэвалюцыі 1905 году, калі была скасаваная забарона беларускага друку й наступілі некаторыя палёгкі для Беларусаў. Беларускі адраджэнскі рух, аднак, ужо ставіць перад сабой і палітычныя мэты. Але да Першай сусьветнай вайны канцэпцыя поўнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі яшчэ праяўлялася слаба; сярод Беларусаў дамінавалі яшчэ або канцэпцыі аўтанамічныя або фэдэралістычныя ў складзе расейскае імпэрыі. Толькі бурлівыя падзеі, выкліканыя сусьветнай вайной і Лютаўскай рэвалюцыяй у Расеі ў 1917 годзе, прысьпешылі насьпяваньне й у Беларусаў ідэі поўнай дзяржаўнай незалежнасьці, што й выразілася ў пастановах Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў 1917 годзе ды завяршылася ў векапомным Акце 25 сакавіка 1918 году, 62-ыя ўгодкі якога й адзначаем мы сёлета.

Гэты кароткі й фрагмэнтарычны агляд пройдзеных беларускім народам гістарычных этапаў ускрывае

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

*25 САКАВІК*

*Ён прыйдзе, гэты дзень!*
*Ён ня прыйсьці ня можа!*

*Ён прыйдзе —*
*й загудзе вясновы буралом,*
*пакрышыць, разьмяце,*
*раськідае, зьніштожыць*
*усё, што нам шляхі да хаты*
*замяло!*
*Ці чуеце?*
*Аб ім*
*шасьціць быльнёг аселіц,*
*пяюць вятры ў лазе,*
*і звоніць крыгаў лёд.*
*Ахвяраю крыві,*
*а Слова стане Целам,*
*і ўжо ніколі больш ня ўстане*
*Чорны Год.*
*Няхай бярэмя він*
*прыгнула нас, і крылы*
*апалі,*
*а хлеб чужы нясмачны і важкі,*
*няхай нас апавіў*
*тугой агорклы вырай, —*
*трывайма!*
*Ён ідзе —*
*Вялікі Сакавік!*
*Ідзе...*
*й пад ногі рунь*
*яму кладзецца, таюць*
*сьнягі, на паплавох зяленіцца*
*трава...*
*Радзіма!*
*Беларусь!*
*Каханая, сьвятая!*
*Багаславі нас жыць*
*і веру захаваць!*

*1950*

*Натальля Арсеньнева*

**Ад Рэдакцыі:** Верш гэты напісаны Натальляй Арсеньневай яшчэ ў 1950 годзе, але ня менш, чымся тады, ён актуальны й сяньня.

# У ДВАЦЦАТЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ДОКТАРА АЛЯКСАНДРА ОРСЫ





**У другім радзе зьнізу пасярэдзіне Доктар-Аляксандар Орса вясной 1944 году сярод выпускнікоў Настаўніцкай Сэмінарыі ў Навагрудку, якая таксама называлася тады Беларускім Настаўніцкім Інстытутам, як акруговы школьны інспэктар. На фотаздымку больш за 90 выпускнікоў толькі аднаго выпуску. Гэта найлепш сьветчыць пра заслугі Доктара Аляксандра Орсы для беларускага школьніцтва.**

У нядзелю 2 сакавіка сёлета сям'я, былыя вучні, супрацоўнікі й наагул грамадзтва Нью Ёрку адзначылі 20-ыя ўгодкі ад сьмерці Доктара Аляксандра Орсы, які адыйшоў у вечнасьць у лістападзе 1959 году.

Ініцыятыва зладжаньня гэтых памінкаў выйшла ад былых вучняў Д-ра Орсы, будучы падтрыманай ягонай сям'ёй і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ды Парахвіяльнай Радай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Грамадзтва Нью Ёрку зь дзьвюх парахвіяў — Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы й Беларускай Праваслаўнай Незалежнай Царквы шматлюдна зьявілася ў гэты дзень у Саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, каб задэманстраваць сваю пашану выдатнаму грамадзкаму працаўніку, узорнаму настаўніку й справядліваму чалавеку.

Пасьля Багаслужбы й Паніхіды, адслужанай а. Янкам Бруцкім, прысутныя перайшлі ў царкоўную залю на памінальную акадэмію. На сцэне за сталом заняў месца д-р Вітаўт Кіпель, які быў каардынатарам выступленьняў. Ён-жа й адчыніў акадэмію кароткім прывітаньнем сям'і Памерлага й прысутных. Хор пад кіраўніцтвам сп. Барыса Данілюка прапяяў „Сьпі пад курганам герояў". Працягваючы сваю ўступную прамову, д-р Кіпель працытаваў словы народнае мудрасьці: Пляную на адзін год — сей збожжа, плянуеш на дзесяць гадоў — садзі сад, плянуеш на пакаленьні — вучы дзяцей. Апошнія словы датычыліся да дзейнасьці Аляксандра Орсы, як настаўніка.

Зьмест прамоваў у скароце зьмяшчаецца далей паводле зробленых аўтаркай гэтага артыкулу зацемак на акадэміі.

Першы ўспамін-рэфэрат быў сп. Васіля Пляскача, з прычыны адсутнасьці якога прачытаны сп-няй Зорай Кіпель. Былі гэта ўспаміны пра настаўніка й грамадзкага дзеяча зь перад апошняй вайны, калі аўтар быў вучнем Беларускай Гімназіі ў Навагрудку, дырэктарам якой быў Пётр Скрабец, а выкладчыкам і клясным кіраўніком тае клясы, у якой вучыўся, быў Д-р Орса. На ўсё жыцьцё запамяталіся словы настаўніка, — прыгадваў В. Пляскач, — што вучні беларускае гімназіі павінны ў будучыні стацца амбасадарамі беларускае справы. Далей аўтар сказаў пра вялікую ахвярнасьць наваградзкіх настаўнікаў: чатырох зь іх, у тым ліку й Д-р Орса, падзяліліся прызнанымі ім дзяржаўнымі этатамі (заплатай) зь іншымі настаўнікамі, якія гэтых этатаў ня мелі. Д-р Орса заініцыяваў пабудаваньне новага будынку для беларускай гімназіі, зь ягонае ініцыятывы быў зарганізаваны камітэт пабудовы й пачалася сама пабудова зь фізычнай дапамогай бацькоў і самых вучняў пры закладаньні фундаманту гэтага будынку ў 1933 годзе. Але польскія ўлады плянавалі йнакш: гімназія была далучаная да польскае дзяржаўнае гімназіі імя А. Міцкевіча, як ейная філія, а пазьней і зусім зачыненая.

Другім прамаўляў д-р В. Кіпель. Ён гаварыў пра пэрыяд у Нямеччыне, пра паўстаньне ў верасьні 1945 году ў Рэгензбургу Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы. Заснавальнікам ейным і дырэктарам быў Д-р Орса. У першым годзе навучаньня вучняў было ўсяго 15-20, але за два гады лік гэты дасягнуў 200. Пэрыяд існаваньня Беларускай Гімназіі ў Рэгензбургу быў кароткі, але вельмі важны. Амаль усе вучні ейныя засталіся сьведамымі ды дзейнымі Беларусамі на працягу ўсяго свайго жыцьця.

Трэйцім прамаўляў сп. Васіль Мельяновіч, прыехаўшы зь Білтмору, пра ньюёркаўскі пэрыяд. Хоць Д-ра Орсу ён добра ня ведаў, бо быў яшчэ малым для школы, але ягоны бацька сп. Пётр Мельяновіч часта ў хаце гаварыў пра Д-ра Орсу: „Калі Д-р Орса гаворыць, дык гэтак і ёсьць, зь яго ўсім нам трэба браць прыклад". Пры гэтым прыгадаў ён тыя груповыя сваркі ў Амэрыцы, якія нас разьбілі на варожыя групы, ды зазначыў, што Д-р Орса быў супраць падобных сварак, бо ён, як выразіўся, „бачыў далёка наперад".

Наступным прамаўляў інж. Кастусь Калоша з Кліўленду, былы вучань Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне. Ён паінфармаваў, што былыя вучні гэтае гімназіі наладзілі грамадзкую працу ў Кліўленьдзе. У залі, дзе зьбіраюцца людзі з розных нагодаў, вісіць на сьцяне вялікі партрэт Д-ра Орсы-настаўніка, які прышчапляў вучням пачуцьцё беларускага патрыятызму, — зазначыў ён.

Тады выступіў з прамовай шчыры прыяцель сям'і Орсаў сп. Уладзімер Русак. Гаварыў ён пра дзейнасьць Д-ра Орсы як грамадзкага працаўніка: „Гэта Д-р Орса зарганізаваў першыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ў 1949 годзе з адмысловай Акадэміяй, што адбылася ў хаце сям'і Орсаў, ды Паніхідай у царкве, якую адслужыў а. Краўчанка. Ізноў-жа ён спрычыніўся й да зладжаньня першых угодкаў 25 Сакавіка, праграмай якіх і сам кіраваў. На тэй Акадэміі быў прысутным і Прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык. І хоць тыя ўгодкі былі сьціплыя, але яны сталіся пачаткам таго, што нашых прадстаўнікоў пазьней пачалі запрашаць у Вашынгтон ды віталь нас Беларусаў у вадмысловых лістох і праклямацыях сэнатары, кангрэсмэны ды губэрнатары штатаў з Днём 25 Сакавіка".

Расказваў далей пра дзейнасьць Д-ра Орсы ў беларускім царкоўным жыцьці, пра тое, якім завілым шляхам афармлялася царква, што пачаткова была зарэгістраваная ў юрысдыкцыі Ўкраінскай Праваслаўнай Царквы, ды пра шматгадовыя натугі выправіць гэтую памылку, што сталася пасьля дзесяцігадовае валакіты, нажаль, ужо па сьмерці Д-ра Орсы. Прыгадаў, як у сварках абражалі Д-ра Орсу людзі на сходах. Канчаючы, сп. Ул. Русак прачытаў імёны ўсіх ахвярадаўцаў дарагіх рэчаў для нашае царквы, бальшыней якіх былі ймёны тых парахвіянаў, што сяньня належаць да імі-ж пабудаванае Беларускае царквы на Рычманд Гіл у Нью Ёрку. Закончыў прамову пажаданьнем, каб тыя дарагія царкоўныя рэчы сталіся супольнаю ўласнасьцяй усіх нас.

Цікавым было выступленьне інж. Міхася Рагулі асабліва таму, што ягоныя ўспаміны сягалі найбольш аддаленых гадоў. З апавяданьняў ягонага бацькі ён расказаў пра працу ў Нягневічах дзейнага тады маладога Орсы. Расказаў пра спробы залажыць у 1919-1920 гг. у тых-жа Нягневічах беларускую каапэратыву, пра выдатную працу Д-ра Орсы ў беларускім выбарным камітэце Наваградзкае акругі, якая паслала ў польскі сойм аж чатырох беларускіх паслоў, тады як у іншых акругах Беларусы змаглі выбраць меньш, а ў некаторых толькі аднаго пасла.

Інж. М. Рагуля прыгадаў, што ў Беларускай Гімназіі ў Навагрудку вучыўся ён у ваднэй клясе з д-рам Ул. Набагезам і д-рам Я. Сажычам. Жыў у бурсе, якой кіраваў Д-р Орса. Калі-ж Беларусь занялі Немцы, Д-р Орса, апрача пэдагагічнай дзейнасьці, працаваў школьным інспэктарам. „Мы, ягоныя вучні, памятаем свайго настаўніка й у нашых сэрцах жывы пра яго ўспамін, бо мы заўдзячваем яму тое, чым мы сяньня ёсьць", — закончыў інж. М. Рагуля.

Пасьля яго выступіў д-р Язэп Сажыч, які вучыўся ў часе, калі Наваградзкая Беларуская Гімназія была філіяй польскае дзяржаўнае гімназіі. Пра Д-ра Орсу ён сказаў: „Д-р Орса быў вельмі патрабавальным, я яго баяўся, але бліжэй пазнаўшы, гэтая боязь зьнікла, ён быў для нас, як брат або бацька".

У далейшым выступіў старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць ды сказаў колькі словаў пра Д-ра Орсу, як настаўніка й грамадзкага працаўніка, асабліва падчыркнуўшы ягоную дзейнасьць як арганізатара беларускага школьніцтва. Чуў ён пра яго яшчэ ў часе сваіх студыяў у Вільні ад ведамага беларускага дзеяча ў Празе д-ра Тамаша Грыба, студэнта Міколы Гірыса й іншых. Сваю прамову ён закончыў словамі: „Аляксандар Орса быў і дырэктарам і школьным інспэктарам, для мяне-ж ён будзе заўсёды выдатным адміністратарам, які ствараў умовы для працы настаўнікаў".

Пасьля выступіў сп. Кастусь Мярляк, які стараўся схарактарызаваць Д-ра Орсу агульна: „Ён быў простым чалавекам, нашым чалавекам, у нарадах моцным, але й кампрамісовым у сваіх паступках. Быў выразумелым і лагодным да сваіх працаўнікоў".

Тады забраў голас праф. Антон Адамовіч. Ён між іншым сказаў: „Д-р Орса захаваўся ў маёй памяці ў колеры, як вобраз, асабліва вочы якога былі моцна падобнымі да вачэй Уладыслава Галубка й Максіма Гарэцкага, як-бы трэйці, што ў ягонай памяці захаваўся калярова". Апосталам праўды называлі Д-ра Орсу, бо ён стараўся супрацьдзеіць таму, каб разыходжаньні паміж Беларусамі ня пераходзілі ў васабістыя сваркі".

Яшчэ перад выступленьнем праф. А. Адамовіча прыйшоў мой чарод. Слухаючы ўважна ўсё, што было сказана, я адчула, што быццам нечага не хапала да поўнага вобразу Д-ра Орсы. А быў ён перш-наперш чалавекам ня толькі фізычна, а й перадусім духова, быў прыкладам для насьледваньня, Чалавекам зь вялікае літары. Паміж прамоўцамі ня было школьных калегаў Д-ра Орсы ні з часоў гімназіяльных, ні ўнівэрсытэцкіх з Прагі Чэскай, а навет і настаўнікаў супрацоўнікаў у Нямеччыне ды школы ў Нью Ёрку, былі толькі лічаныя адзінкі: сп-ня Н. Орса, сп-ня З. Станкевіч ,праф. Ант. Адамовіч і Г. Паланевіч, што працавалі ў гімназіі імя Янкі Купалы. Так, я была настаўніцай у гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгензбургу й Міхэльсдорфе ў Нямеччыне. Вучыла й у беларускай школе, кіраўніком якой быў Д-р Орса. Але ня гэта галоўнае. Важным для мяне было тое, што я пазнала Д-ра Орсу, як чалавека — выразумелага, спагадлівага, чулага на людзкую бяду ды гатовага кажнаму працягнуць руку ў патрэбе.

Часы зьмяняліся. Пачалася вайна. Бальшавікі занялі Навагрудчыну й усю Заходнюю Беларусь, што была пад Польшчай. Д-р Орса працаваў тады ў нова створаным Пэдагагічным вучылішчы ў Навагрудку, дзе працаваў і мой муж. Час быў няпэўны, калі-ж прыйшлі Немцы, стаўся ён трагічным для мяне й маёй, яшчэ ў пялёнках, дачкі. Мужа ў гэным часе ня было з намі й я засталася адна. Дом разграбілі суседзі. Тады прыйшоў да мяне Д-р Орса й амаль сілком забраў мяне зь дзіцем да сябе. Перанёс пазьней да сябе пасьцель і трохі адзежы. Гэткім парадкам ён выратаваў, калі ня нас абаіх, дык напэўна маю дачку ад сьмерці з голаду. Апошнім куском хлеба дзялілася сям'я Орсаў з намі.

Разам апыніліся із сям'ёй Орсаў і ў Нямеччыне, а па вайне — і ў ЗША. Асабліва часта сустракаліся, як прыехалі ў Амэрыку. Жылі блізка. Часта з Д-рам Орсам сядзелі доўга на лавачцы на пляцы, што быў ля іхнага дому, ды гутарылі пра свае клопаты на эміграцыі, прафэсійныя пляны, зьмены настаўніцкае прафэсіі, на грамадзкія тэмы. Самай турбуючай ягонай думкай была праца ўзгадаваць Беларусамі маладое пакаленьне на эміграцыі. Быў ён у той час кіраўніком беларускае школы для дзяцей. Дзяліўся сваімі турботамі за будучыню сваіх дачок, за іхнюю адукацыю, якіх так бязьмежна любіў.

І не аднаму яшчэ чалавеку, як і мне, дапамог Д-р Орса на працягу свайго жыцьця. А ягоныя вучні перахоўзаюць памяць аб ім праз даўгія гады. Усе прамоўцы-вучні ды й сп-ня Зора Кіпель, чытаючы рэфэрат В. Пляскача, выціралі сьлёзы. Вартым быў гэтых сьлёз, шчырых сьлёз узгадаваўца малодзі, вартым быў і таго, каб адзіная школа, што насіла ягонае ймя, жыла й да сяньня ў Кліўленьдзе, як жыве памяць пра яго паміж ягонымі вучнямі. Не з дакорам гэта было мною ўспомнена ягоным вучням, можа іхнае віны ў гэтым ня было, але зь вялікім сумам я гэта прыгадала, што мы ўсе ў сваіх учынках далёка адстаём ад Настаўніка, Апостала праўды, й ад Аляксандра Орсы Чалавека.

Пасьля пасілкаваліся пры багатым буфэце ды праводзілі час у шчырых гутарках з нашымі гасьцямі зь Беларускай Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл Беларускае Незалежнае Царквы. Так добра было сустрэцца з Вамі, дарагія Суродзічы. І за гэтую нагоду спаткацца ўдзячныя мы застаёмся таму-ж Доктару Аляксандру Орсу. Вечная Яму Памяць!

**Зінаіда Станкевіч**

## ПАДЗЯКА

Арганізацыйнаму Камітэту, што дня 2 сакавіка сёлета зладзіў Акадэмію-Памінкі на 20-ыя ўгодкі ад сьмерці сьв. пам. Д-ра Аляксандра Орсы, усім былым вучням, што прынялі ўдзел у памінальнай урачыстасьці, і тым, якія ня прыбылі, але прыслалі пісьмовыя прызнаньні й пашану Памерламу, а таксама ўсім Суродзічам, што прыбылі на памінкі, шчырую падзяку выказвае гэтай дарогай

**Сям'я Памерлага**

## ПАМЁР ПЯТРУСЬ БРОЎКА

Як паведаміла савецкае тэлеграфнае агенцтва ТАСС, 23 сакавіка сёлета памёр у Менску ведамы беларускі савецкі паэта, грамадзкі, культурны й навуковы працаўнік Пятрусь Броўка.

На літаратурную ніву Пятрусь Броўка выступіў у 1926 годзе. Ён выдаў каля трох дзесяткоў кнігаў сваіх паэтычных твораў.

Быў ён песьняром наскрозь савецкім і партыйным, аднак у гадох пасьлясталінскіх прагучэлі ў ягонай творчасьці й матывы беларускага патрыятызму.

Да бясспрэчных ягоных заслугаў належала таксама ягоная дзейнасьць як галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі, у першых тамох якое стараўся беларускую нацыянальную тэматыку асьвятляць больш аб'ектыўна, чымся рэкамэндавалася партыяй. Таксама прабаваў у гэтай Энцыклапэдыі часткава вызваліцца ад абавязваючага русыфікаваньня беларускае мовы, але гэтыя ягоныя намаганьні хутка былі партыяй спыненыя.

Шырэй і грунтоўней пра Пятруся Броўку будзе ў прысьвечаным яму артыкуле ў наступным нумары „Беларуса".

## ФОНД ВЫДАНЬНЯ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

На конта Фонду Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы ў лютым 1980 г. былі атрыманыя ад наступных ахвярадаўцаў сумы: **М. Нікан — $160.00; Аддзел БАЗА ў Кліўленьдзе — $100.00; М. Заморскі — $75.00; П. Кажура, А. Корбут, Я. Азарка й А. Дубяга — $75.00; Ванда й Міхась Махначы — $50.00; Ванда й Міхась Махначы — $28.00;; усяго разам у лютым 1980 г. — $488.00. Разам з папярэднімі й банкавымі працэнтамі — $3,806.70.**

Усім Паважаным Ахвярадаўцам нашае шчырае беларускае дзякуй!

**Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"**

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

На просьбу сп. Ніка Вайтовіча з Рокфорду, штату Ілінойс, выясьняем, што атрыманыя ад яго $100.00 на Фонд Выданьня Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы былі намі паквітаваныя ў № 270 „Беларуса" за кастрычнік 1979 году, але ня былі пералічаныя ўсе ахвярадаўцы, што на гэныя $100.00 зляжыліся. Дык пералічаем іх тут, ветліва іх перапрашаючы: Нік Вайтовіч — $50.00; Сьцяпан Сарока — $25.00; Ян Малец — $10.00; Васіль Нафрановіч — $10.00; Пётр Ракуць — $5.00.

